Цана нумэру 50 кап.

# БЕЛАРУСКАЯ ДУМКА

ШТОДЗЕННАЯ ГАЗЭТА.

Рэдакцыя і Адміністрацыя — Вастра-Брамская, № 9 — адчынена што дня, апрача сьвята, 10—3 гадз.

АБВЕСТКІ: 1 радок перад тэкстам 4 рублі. 1 радок за тэкстам 2 рублі. 3 безработных за усю абвестку 2 рублі.

Год I. Вільня, Пятніца, 4 ліпня 1919 г. № 36.

БЕЛАРУСКІ НАЦЫЯНАЛЬНЫ КАМІТЭТ

**гэтым абвяшчае,**

што у канцэлярыі Камітэта *(Вострамская № 9)*,

робіцца рэгістрацыя безработных беларусау, для якіх Камітэт склікае сход 8 ліпня (юля) для арганізацыі работніцкіх арцеляу, якім на днях можа быць дадзена праца.

*КАМІТЭТ.*

# ШКОЛЬНЫЯ СПРАВЫ.

Дзякуючы вайне, каторая ўсім сваім ціжарам лягла на Беларусь і на Літву, дзякуючы таксама эвакуацыі ўсіх расейскіх урадовых загадаў, а ў тым ліку і школ, Беларусь аказалася ў вельмі цяжкім палажэньні ў адносінах да школьнай справы.

Замест расейскіх, у некаторых вёсках і мястэчках адчыніліся польскія школы. Патроху сталі расьці і беларускія школы, але не ў такім ліку, як вымагала жыцьцё. У многіх мясцох Беларусі, ў каторых былі школы, цяпер іх няма. Народ ня можа пасылаць сваіх дзяцей вучыцца, і дзеці растуць нявучанымі. Да якой пары гэтак будзе, няведама, бо край наш яшчэ ня можа супачыць ад вайны, а пакуль ня скончыцца на нашай зямлі вайна, да той пары мы не паладзім школьную справу так, як-бы хацелі.

Усё-ж тое, што на нашай зямлі ідзе вайна, ня ёсьць довад, каб нічога не рабіць для школьнай справы. Былі акупанты-немцы і для школьнай справы нешта рабілі. Прышлі потым бальшавікі і таксама клапаціліся аб школьных справах.

Мы думаем, што і польская ўлада таксама клапоціцца аб школах, але толькі да апошняга часу штосьці аб гэтым ня чуваць.

Ня так даўна утварыўся польскі суд. Утвараюцца і іншыя адміністрацыйныя урады, а аб школьным кіраўнічым органе мы яшчэ ня чулі.

Для нас, беларусаў, пытаньне аб школах вельмі важнае пытаньне. На Беларусі пры царскім рэжыму, аж да самай эвакуацыі (1915 г.) нашага края перад прыходам немцаў, для беларусаў істнавалі толькі расейскія школы, ды ў некаторых мясцох для беларусаў-каталікаў — тайныя польскія школкі. Беларускіх школ царскі урад не пазваляў адчыняць. Ды й праўду кажучы, пры тым ганеньні на ўсё ня рускае, ці-ж маглі мы, беларусы, думаць аб стварэньні сваіх школ, калі навет палякі, народ мацнейшы за нас па культуры, і тыя не маглі нічога зрабіць.

Цяпер мы ня толькі хочам, але і можам ужо тварыць сваю нацыянальную школу. Цяпер, за часы рэвалюцыі, мы патроху умацаваліся і культурная праца наша пашырылася. Цяпер нам трэба моцна падумаць, каб народ наш не астаўся без навукі, а таксама, каб навука ішла да яго ня з боку, а праз нас, каб школа, у каторую пайдуць дзеці беларускія, была не расейскай і ня польскай, а беларускай.

Дзеля гэтага трэба падгатаваць вучыцельскі пэрсонал.

Сярод нас—беларусаў ёсьць многа вучыцялёў быўшых расейскіх школах, каторыя могуць быць добрымі пэдагогамі і ў беларускіх школах. Трэба толькі пазваць гэтых вучыцялёў на каротка-срочныя курсы, каб яны навучыліся, ці навет толькі падрыхтаваліся добра гаварыць і пісаць па-беларуску, прайшлі кўрс беларускай літэратуры, гісторыі, геаграфіі, павучыліся-б пяяць беларускія песьні, абзнаёміліся-б з беларускай народнай паэзіяй, драмай, камэдыяй, з народным штукарствам і гэт. далей.

На курсы патрэбны грошы, каторых у нас няма. Немцы і бальшавікі давалі патрэбныя грошы на школьныя патрэбы. Павінны даць іх і палякі, аб чым як найхутчэй трэба было-б зьвярнуцца да іх.

Ато час не чакае й дзеці нашыя астаюцца без навукі цёмнымі невукамі.

**Гарро.**

## Панскія учынкі.

У Варшаве заарыштованы начальнік аддзелу манапалізованых прадуктаў Владыслаў Бауман і рэфэрэнт па цукровых справах Балеслаў Тамашэўскі. Супольны гаспадар фірмы «Карл Махлайд» Ю. Махлайд арыштован па падазрэньню ў незаконным атрыманьню цукру.

Далей з Варшавы даносяць, што Генеральная дэлегацыя міністэрства аправізацыі з Гданску напала на сьлед і адкрыла арганізацыю, дзе пры помачы нямецкіх чыгуншчыкаў, сыстэматычна праводзілася крадзеж прадуктаў, што пасыліліся з Гданска у Польшчу. Адкрыцьце гэтай арганізацыі заняло некалькі тыдняў і патрэбавала шмат асьцярожнасьці. Сьледзтва будзе багатае і дасьць шмат інтэрэснага матэр'ялу.

Чытаючы гэтыя весьці з Варшавы, мы дзівуемся, як могуць польскія паны з красамоўствам, з пекнымі словамі аб долі Польшчы, аб сваім патрыатызме і гарачым каханьні да сваёй бацькаўшчыны рабіць такое зладзейства і губіць тое, што з такой труднасьцю цяпер здабыта?

Калі польскія паны, у часе вайны угуртаваўшыся каля рожных расейскіх саюзаў, кралі расейскія грошы, яны адказавалі, што гэта грошы маскалёў, іхных спрадвечных ворагаў, і што шкодзіць ім набіваць свае кішані—гэта знача таксама працаваць на карысьць сваёй бацькаўшчыны.

Гэта быў найвялікшы цынізм, але ўсё-ж ён меў хоць нейкі грунт пад сабою. А цяпер? Што вы цяпер можаце сказаць у сваю абарону? Вы, каторыя рабуеце народнае дабро, абдзіраеце народ і, калі вам прыходзіцца дрэнна, хаваецеся за яго.

А тымчасам пан, каторы стаіць на чале харчавога аддзелу, заяўляе, што ў яго няма людзей, няма з кім працаваць, бо каго-б ні пусьціць да цёпленькага месца, усякі зараз-жа пачынае красьці, а калі яго выганяць адтуль, ён за хабара можа йзноў у другім міністэрстве атрымаць другое месца.

Гэтак вы робіце у сябе, у сваёй бацькаўшчыне... І трэба вельмі задумацца над тым, што за доля будзе нашага краю, калі ў ім будуць гаспадарыць такія паны. Бо калі яны ў Варшаве безкаранны, то што-ж будзе у нас, хто будзе пасылацца да нас, і якія апэтыты будуць у гэтых людзей!

Газэты даносяць, што ў Варшаве і сярод інтэлігентных і сярод работніцкіх мас шмат безработных. Яны, гэтыя людзі, шукаюць працы, просяць яе, ходзячы штодзень па рожных урадах. А ў хаце, можа быць, сядзяць галодныя дзеці і жонка і чакаюць і моляцца Богу, каб тыя добранькія паночкі, тыя, што меюць такія ганаровыя твары і так добра апрануты, далі-б можнасьць іх бацьку зарабіць на кавалачак хлеба. І калі мы абхопім гэты кантраст, калі на вагу нашага сумленьня пакладзём шкодную працу паноў і гэтых бедных, жадаючых працы людзей, дык мы скажам: «Дайце ім, гэтым людзём, дарогу, а самі зыйдзіце з яе». Бо раз ужо вашы дзяды і прадзяды прадалі і раскралі бацькаўшчыну. Дык хай-жа ўнукі гэтых дзядоў, калі яны не прафануюць лепшых учуцьцяў народных, хай у цяперашні час роўнасьці і вольнасьці адумаюцца і будуць, ня будзем казаць—„патрыотамі" але хаця-ж бы сумленнымі грамадзянамі.

А. С.—ва.

# АПОШНІЯ НАВІНЫ.

## Весткі Польскага Генеральнага Штабу.

*30 чэрвеня.*

### Галіцыйска - Валынскі фронт.

У прысутнасьці на фронце начальніка дзяржавы, нашае контр-наступленьне ідзець з вялікім пасьпехам. Няпрыяцель паўсюды адыходзіць, ён робіць менш упорнае супраціўленьне, як у першы дзень. Заняты Броды, Птухаў, Памаржаны, Бжазаны. За учорашні дзень мы ўзялі каля 1000 палонных, шмат аружжа і амуніцыі. На Валыні без перамен.

### Палескі фронт.

29 чэрвеня бальшавікі пачалі наступленьне на усім палескім фронце, найдужэйшыя атакі былі на Лагішын і Валішча. Атакі паўсюды адбіты з цяжкімі для няпрыяцеля стратамі.

### Літоўска-Беларускі фронт.

Адбіты атакі няпрыяцеля на Сакоўшчыну і на вучастак Ігналіна-Даўгялішкі, атакі былі падтрыманы артылерыяй і бранёвым поездам. На рэшце фронту дзеяльнасьць разьведчыкаў.

### Вялейка і Маладзечна.

**Водле апошніх вестак, польскія войскі забралі Вялейку і Маладзечна.**

### Пазнанскі паўночны фронт.

На куяўскім вучастку і пад Замосьцем звычайны агонь артылерыі проціў нашых пазыцый. У сярэдзіне фронту дужая дзеяльнасьць нямецкіх патрулёў. Атакі адбіты пад Яктароўскімі Губамі, Сыпнёвам, Афэлён, і Трымя Дамамі.

### Заходні фронт.

Нямецкая артылерыя абстрэлівала Кашчар, Паўловіча, Выдартава і Савіны. Нарэшце без перамены.

### Паўднёвы фронт.

Каля Каўча, Змысьвёнай, Пажынаўскай, Тужам і Жэтняй дзеяльнасьць артылерыі проціў нашых пазыцый. На Равіцкім вучастку дробныя стычкі.

## Бальшавіцкія весткі з фронта

22 чэрвеня.

Мы пакінулі Паўлаград.

Ідзець заўзяты бой за пераправы цераз Данец, каля Зьміева і Чугуева.

На паўноч мы пакінулі Валчанск. Нашы войскі пакінулі Валуйкі. Мы пакінулі Калач.

Нашыя войскі занялі Ушакоўку і Салаўнікі, на паўдзённым беразе Волгі, на паўдзённы ўсход ад Царыцына.

У астраханскім районе мы, пад націскам супраціўніка, пакінулі Зімнюю Стаўку і Аленічаву.

У керчанскім напрамку нашыя войскі, пасьля заўзятага бою з перавышаючымі сіламі няпрыяцеля, пакінулі Феадасію; цяпер ідзе бой ля станцыі Грамадчыкава.

На Украіне нашыя дзеяньні проціў партызанскіх банд ідуць з пасьпехам.

На паўдні ўжо началіся нашы сістэматычныя і плянамерныя дзеяньні проціў Денікіна (Wireless Press).

## Бэтман-Гольвег замест Вільгельма.

НАУЭН. Быўшы канцлер Бэтман-Гольвег зьвярнуўся да Клемансо з лістам, у якім піша, што ён, як канцлер, адзін адказвае за палітычную дзеяльнасьць кайзэра і аддае сябе у распаражэньне дзяржаў кааліцыі.

## Нямецкія газэты аб вэрсальскім міру.

НАУЭН. Нямецкая прэса, гаворачы аб мірным трактаце, называець яго блізарукім і гвалтоўным. Прыглядываючыся да таго, што дзеецца ў Парыжу і Вэрсалю можна адазначаць, што набет самі тварыцелі міру прызнаюць, што ён ня можа стварыць добрых адносін паміж народамі.

Тэадор Вольф піша, што Нямеччына ня прызнае трыўмфу кааліцыі. Гісторыя не назаве пабядзіцелей арламі, а хішчнымі птушкамі, вырываючымі адзін у воднага здабычу. У Нямеччыне ўсе пераконаньні проціў анэксіянізма, а ў нашых супраціўнікаў гэтую ідэю горача вітаюць.

## Ангельская місыя у Гельсінгфорсе.

ПАРЫЖ. У Гельсінгфорсе ваенная ангельская місыя на чале з генералам Гуг пачала сваю дзеяльнасьць. Місыі гэтай, як прадстаўніцы кааліцыі, даручана пільнаваньне палітыкі дзяржаў, істнуючых каля Балтыцкага мора. Місыя генерала Гуга выбярэ сваёй рэзыдэнцыяй Гельсінгфорс і будзе мець свае аддзелы ў Рэвэлю, Нарве, Рызе і Коўне.

## Адбудова Іпру.

ПАРЫЖ, 30 чэрвеня. Сабралася камісія з архітэктараў бэльгійскіх і англійскіх, каб адбудаваць места Іпр. Жыхароў просяць застацца на сваіх мясцох. (ПАТ).

## Што гэта азначае?

ПАРЫЖ, 29 чэрвеня. Цурыхскі кар. «Matin» паведамляе, што ўсе нямецкія афіцэры, якія знаходзяцца ў атпуску ў Швайцарыі, атрымалі загад вярнуцца да сваіх атрадаў. (Гавас).

# У ВІЛЬНІ.

## Унівэрсытэт.

Чытаньне лекцыяў у Віленскім унівэрсытэце мяркуюць пачаць з восені г. г.

## Зьезд паветавых камісараў.

У Вільні на працягу 3-х дзён адбываўся зьезд паветавых камісараў Віленскага вокруга. Старшынёй зьезду быў камісар Віленскага вокруга К. Нядзялкоўскі; на зьездзе быў і спэцыяльны дэлегат генеральнага камісара С. Даўнаровіч. Паветовыя камісары зрабілі даклады аб сваём адмістратыўна - арганізацыйнай працы, а таксама аб палажэньні даручаных ім паветаў. У свой чарод павятовыя камісары атрымалі ад свайго акружнага начальства інструкцыі і распаражэньні, маючыя мэту ўстанавіць аднолькавую сыстэму загада краем.

## Беларускі ваенны сабор.

Есьць чуткі, што сярод праваслаўных беларусаў зарадзілася думка перарабіць тушэйшую Раманаўскую царкву у беларускі ваенны сабор.

## Хлеб.

З-аўторка цана на хлеб дузноў зьнізілася. У некаторых пякарнях можна купіць хлеб па 3 р. 90 кап. за фунт.

## Беларуская кухня.

9-га ліпня адчыняецца Беларуская народная кухня на Кальварыйскай вуліцы № 37.



Рэдактар і выдавец У. Знамяроўскі. Друкарня «Віленскага Выдавецтва», Мала-Стэфанаўская, 23.